Сведчаць дакументы

# ХРОНІКА ЗЛАЧЫНСТВАЎ 1939-1941

*Працяг. Пачатак у №№28-34,37,39-41,43-51 за 1996 г.,№№1-4,6-8 за 1997 г.*

## Спіс асуджаных у Асобай Нарадзе на 25-е снежня 1940 г. па УНКУС Вілейскай вобласці.

1237. Сяргун Яўстафій Міхайлавіч– 23. 7. 40 г.–5 год ВТЛ– ст. Котлас
1238. Стаілвоіч Юзэфа Пятроўна– 23. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
1239. Семашкевіч Восіп Восіпавіч– 9. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– г. Архангельск
1240. Свірская Ганна Рыгораўна– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
1241. Сташалевіч Станіслаў Міхайлавіч– 23. 77 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1242. Савіцкі Станіслаў Іванавіч– 23. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1243. Сячко Іван Міхайлавіч– 19. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1244. Сапоцька Іван Канстанцінавіч– 5. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Салікамск
1245. Славінскі Іван Францавіч– 13. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1246. Снарская Галіна Міхайлаўна– 19. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
1247. Сямашка Браніслаў Міхайлавіч– 30. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Енісей
1248. Спявак Герш Аронавіч– 29. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1249. Сямашка Уладзіслаў Антонавіч– 21. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1250. Стаяк Яўген Блажавіч– 10. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Безымянка
1251. Семашкевіч Іосіф Ігнатавіч– 2. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1252. Станкевіч Вікенцій Тадэвушавіч– 10. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Безымянка
1253.Станчык Іосіф Іосіфавіч– 29. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1254. Ступін Пётр Паўлавіч– 10. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– Самарлаг
1255. Скрабацін Уладзімір Сцяпанавіч– 10. 8. 40 г.– 8 г. ВТЛ– ст. Безымянка
1256. Сіздал Франц Людвігавіч– 6. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
1257. Сіротка Іосіф Нікадзімавіч– 21. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1258. Сарока Зігмунд Канстанцінавіч– 27. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1259. Сурант Канстанцін Іванавіч– 10. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Поцьма
1260. Самазванаў Анарым Фаміч– 17. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1261. Сакалоўскі Антон Вікенцьевіч– 9. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1262. Свердлін Станіслаў-Тадэвуш Леанід.– 6. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1263. Свербутовіч Іван Рыгоравіч– 10. 9. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
1264. Сянкевіч Аляксандр Андрэевіч– 27. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1265. Сінюць Браніслаў Станіслававіч– 10. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Безымянка
1266. Савярскі Уладзіслаў Іванавіч– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
1267. Славінская Малання Карпаўна– 21. 8. 40 г. – 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
1268. Скшыцкая Браніслава Казіміраўна– 9. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
1269. Сакалоўскі Станіслаў Алехавіч– 10. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1270. Стацкевіч Баляслаў Іосіфавіч– 10. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Безымянка
1271. Сціла Іван Андрэевіч– 10. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1272. Сукенік Ізраіль Маісеевіч– 10. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Безымянка
1273. Станкевіч Альфонс Ісідоравіч– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Безымянка
1274. Спірыдовіч Іосіф Казіміравіч– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Безымянка
1275. Савіцкі Альбін Ігнатавіч– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– Самарлаг
1276. Сінкевіч Станіслаў Якубавіч– 10. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– Самарлаг
1277. Стакун Францішак Антонавіч– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Безымянка
1278. Сліпаеўскі Міхаіл Сцяпанавіч– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Безымянка
1279. Самуйла Антон Вікенцьевіч– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Безымянка
1280. Савіцікі Аляксандр Захар'евіч– 10. 8. 40г.– 5 год ВТЛ– ст. Безымянка
1281. Сарока Віктар Францавіч– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Безымянка
1282. Стадніцкі Станіслаў Адамавіч– 21. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1283. Сідзяка Віктар Вікенцьевіч– 27. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1284. Сіскевіч Павел Сілівестравіч– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Безымянка
1285. Сташкер Вельгельміна Войцехаўна– 5. 8. 40 г.– 3 г& ВТЛ– ст. Марыінск
1286. Сауль Ян Антонавіч– 6. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1287. Свербутовіч Восіп Карлавіч– 17. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1288. Свірскі Міхаіл Ісакавіч– 21. 8. 40 г– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1289. Спірыдовіч Вераніка Янаўна– 30. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Марыінск
1290. Сінкевіч Валянцін Юльянавіч– 6. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– г. Архангельск
1291. Сурвіла Іван Ягоравіч– 21. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
1292. Слуцкі Аляксандр Васільевіч– 13. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1293. Сільвановіч Ганна Іванаўна– 27. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
1294. Сакалоўскі Вікенцій Іосіфавіч– 19. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1295. Сініца Часлаў Уладзіспававіч– 19. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1296. Сініца Станіслаў Сігізмундавіч– 19. 8. 0 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1297. Сцепанян Раман Аляксандравіч– 10. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Безымянка
1298. Скробут Іван Вікенцьевіч– 10. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Безымянка
1299. Скрыпка Пётр Антонавіч– 29. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1300. Следзь Іосіф Антонавіч– 29. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1301. Станкевіч Сяргей Уладзіслававіч– 26. 6. 40 г.– 8 г. ВТЛ– г. Архангельск
1302. Садоўскі Іосіф Іванавіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1303. Стукін Станіслаў Антонавіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1304. Сліва Іван Міхайлавіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1305. Скачко Вікенцій Вікенц.– 29. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1306. Сольдэн Тэлесфорд Іосіфавіч– 29. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1307. Саладуха Майсей Якаўлевіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1308. Сцефановіч Мечыслаў Станіслав.– 2. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1309. Салтыкевіч Іван Станіслававіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1310. Сідлецкі Мар'ян Станіслававіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Карабас
1311. Сіцько Раман Васільевіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1312. Сірэвіч Усцін Антонавіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1313. Сняжко Аляксандр Аляксандравіч– 20. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Карабас
1314. Суднікові Палікарп Мацвеевіч- 29. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1315. Сухіцкі Эдмунд Антонавіч– 29. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1316. Сухіцкі Генрых Антонавіч– 29. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1317. Сараговіч Іцык Сянсенавіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1318. Самусёнак Віталь Антонавіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1319. Стэнберг Якаў Пятровіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1320. Сямчонак Франц Восіпавіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1321. Спірыдовіч Гаўрыіл Казіміравіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1322. Собаль Уладзіслаў Андрэевіч– 25. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1323. Сасновіч Іосіф Іцкавіч– 26. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1324. Станцэль Іосіф Казіміравіч– 26. 11. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Сама
1325. Тумель Уладзіслаў Іванавіч– 237 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1326. Тандрык Міхаіл Восіпавіч– 21. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ- ст. Котлас
1327. Танона Іван (без імені па бацьку)– 10. 8. 40 г.– 3г. ВТЛ– ст. Безымянка
1328. Цімафей Міхаіл Мітрафанавіч– 10. 8. 40 г.– 3 г. ВТЛ– ст. Безымянка
1329. Церах Ізя Лейбавіч– 30. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Енісей
1330. Трыпут Браніслаў Мікалінавіч– 30. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Енісей
1331. Тумановіч Антон Францавіч– 13. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1332. Турко Васіль Іванавіч– 17. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1333. Таменберг Ісак Сіманавіч– 26. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1334. Турчынская Алена Станіславаўна– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Поцьма
1335. Трускоўскі Уладзіслаў Намакавіч– 17. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1336. Трубовіч Іосіф Міхайлавіч– 10. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Безымянка
1337. Трумпель Эдмунд Рыгоравіч– 21. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1338. Тондрык Баляслаў Вікенцьевіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1339. Церах Вікенцій Вікенцьевіч– 13. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1340. Трухамовіч Станіслаў Андрэевіч– 5. 7. 40 г.– 3 г. ВТЛ– ст. Салікамск
1341. Тамашэвіч Ванд Ігнатавіч– 19. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– Старадубская п/к
1342. Тамашэўская Алена Казіміраўна– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
1343. Трушэль Фелікс Уладзіслававіч– 23. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1344. Тамашэвіч Восіп Станіслававіч– 13. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1345. Цескі-Дзеснаў Станіслававіч– 9. 7. 40 г.– 3 год ВТЛ– ст. Котлас
1346. Тамашык Мячаслаў Станіслававіч– 25. 11. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Сама
1347. Цікачынскі Маісей Лейбавіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
1348. Табачынскі Гірш Лейбавіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1349. Цюкша Пётр Усцінавіч– 27. 6.40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
1350. Трайкоўскі Пётр Адамавіч– 26. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Карабас
1351. Тамашэўскі Аляксандр Вікенцьевіч– 27. 6. 40 г.– 8 г. ВТЛ– ст. Карабас
1352. Такарэвіч Міхаіл Міхайлавіч– 26. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– г. Архангельск
1353. Талуц Надзея (без імя па бацьку)– 27. 6. 40 г.– 3 г. ВТЛ– ст. Карабас
1354. Ташкунова Малання Вікенцьеўна– 27. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Карабас
1355. Цвердзін Хенах Мацелевіч– 27. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– г. Архангельск
1356. Трускоўскі Уладзіслаў Станісл.– 27. 6. 40 г.– 5 г. ВТЛ– г. Архангельск
1357. Трочка Баляслаў Андрэевіч– 27. 6.40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1358. Трафімаў Ягор Іванавіч– 27.6. 40 г.– 5 год ВТЛ– г. Архангельск
1359. Урбановіч Эдуард Фларыянавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1360. Ульскі Міхаіл Восіпавіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1361. Ундра Фелікс Раманавіч– 5. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1362. Ундр Юзэф Раманавіч– 5. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1363. Угоранка Браніслаў Станіспававіч– 26. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1364. Узарэвіч Станіслаў Казіміравіч– 10. 8. 40 г.– 3 г. ВТЛ– ст. Безымянка
1365. Усціновіч Іван Мікалаевіч– 26. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1366. Урбан Уладзіслаў Аляксандравіч– 21. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
1367. Усовіч Генрых Ваславіч– 26. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
1368. Урбан Антон Восіпавіч– 27. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
1369. Урбанскі Смтаніслаў Янавіч– 27. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– г. Архангельск
1370. Упвал Мала Янкелеўна– 26. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Карабас

*Працяг будзе.*

З непрыдуманага

# Два за год

***АСТРАВЕЦ. Гісторыя адбылася з адным чалавекам, што жыў на невялічкім хутары.***

Было гэта акурат гадоў пяцьдзесят таму. У тыя часы наша мясцовасць знаходзілася пад Польшчай і як нязменныя атрыбуты таго жыцця былі і панскія маёнткі, і надзелы зямлі, якія называліся "шнурамі". Але не так гэта ўжо і важна, бо гаворка ідзе пра смешны і ў той жа момант трагічны выпадак.

Жыў-пажываў малады хлопец Адась на хутары разам з бацькамі, апрацоўваў зямлю, з якой кармілася ўся сям'я. Каб сказаць што жыццё ў іх было сытым і бестурботным, то не скажаш, але і з працягнутай рукай па свеце хадзіць не даводзілася.

І тут, калі да ўлады прыйшлі Саветы, умомант абляцела птушкай усе аддаленыя вёскі і хутары вестка, што будуць забіраць хлопцаў у войска. Вядома, тады, як, напэўна, і цяпер, нацягваць боты ды вайсковую форму, мяняючы тым самым звыклы жыццёвы ўклад, хацелася не ўсім. Сталі многія хавацца ў лясах, бо вылавілі "дэзерціра". Такое затрыманне абяцала турму, і калі ў яго запыталі пра прозвішча, то ў тым страху, а, можа, і каб не пасадзілі бацькоў, ён назваўся Невядомскім.

Хутка яго пасадзілі на адзін год. Ужо ў турме ён меў неасцярожнасць выхваліцца, як схлусіў энкавэдзістам пра сапраўднае прозвішча— Градзь. І трэба ж такому здарыцца (да вызвалення заставаўся адзін месяц), як "пранюхалі" пра хітрасць турэмныя начальнікі і дабавілі яшчэ адзін год.

Атрымалася, што і за Невядомскага, і за Градзя тэрмін у адной асобе адбываць прыйшлося. За такі ж час якраз бы з войска паспеў вярнуцца.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

Лёсы людскія

# Сэрца балела па Радзіме

***Калі 1 верасня 1939 года гітлераўская Германія напала на Польшчу, на вайну трапілі і жыхары Заходняй Беларусі. Некаторыя трапілі ў фашысцкі палон. Не вярнуўся дамоў Мікалай Ермаковіч з вёскі Задубенка, што на Мядзельшчыне, апынуўся далёка ад радзімых месцаў. Жонцы Ірыне, з якой пражыў толькі два гады, прысылаў пісьмы з няволі.***

Яна беражэ пісьмы мужа, частку перадала ў раённы музей.

"...Дарагая Ірыша! Пішы часцей, я маю права пісаць толькі два разы ў месяц. Ведаю тваё адзіноцтва, не бядуй і не плач. Будзь добрай да маёй мамы."

"...Моцна сумую, што надыходзіць другая вясна, калі я не магу быць разам з табой і ўсімі роднымі і знаёмымі і цешыцца цудоўнай прыгажосцю прыроды і свабодным шчасцем краю".

"...Атрымаеш 400 грамаў хлеба, а трэба цэлы дзень цяжка працаваць. Ночцу намочыш ручнік, абгорнеш рукі, тады толькі можна спакойна спаць."

"...Сёння мяне агарнуў нейкі сум, такі, што не хацелася жыць".

З нямецкай няволі ў 1945 годзе Мікалая Ермаковіча вызваліла Савецкая Армія. Ваяваў, прыслаў дамоў некалькі пісьмаў. Загінуў у баі 8 мая 1945 года.

Вось такі лёс чалавека, які трапіў у нямецкую няволю ў верасні 1939 года, калі быў салдатам польскай арміі. Яго душа балела па родных і блізкіх, але не змог уцячы.

Некаторым гэта ўдавалася. Рызыкуючы жыццём, яны пераходзілі нямецка-савецкую мяжу да бацькоў. Іх спадзяванні: на радзіме ўлады прымуць з радасцю, адобраць учынак.

Толькі ці так атрымалася? У кнізе "Помилуйте..." В. Адамушкі і Н. Івановай пішацца пра лёс былых салдат польскай арміі Івана Ляшчэвіча, Марцьяна Чуміка, Міхаіла Бажэлкі і іншых беларусаў з даваеннай Вілейскай вобласці. Яны знаходзіліся ў нямецкай няволі з верасня 1939. У 1940 годзе ўцяклі з Германіі. Дома іх арыштавалі за "нелегальны пераход граніцы" і перадалі справу на разгляд Асобай нарады пры НКУС СССР.

За жаданне трапіць на радзіму– арышт!?

У час хрушчоўскага "пацяплення" пісалі, што ў І сусветную вайну салдатам, якія ўцякалі з нямецкага палону, уручалі ўзнагароды, давалі магчымасць пабываць на радзіме, а толькі потым бралі на фронт. Пра следства ды арышт гаворка не ішла.

*М. КУПСКІ.*

На іхні капыл

# Так робяць чужынцы

***МЯДЗЕЛ. У сваёй кнізе "Лісткі календара" Максім Танк шмат пісаў пра тое, як улады буржуазна-памешчыцкай Польшчы вынішчалі ўсё беларускае, закрывалі школы і газеты, перакрывалі шлях беларуса ў навуку, культуру, эканоміку.***

Захапіўшы Заходнюю Беларусь, польскія ўлады паспяшаліся ў 1921 годзе правесці перапіс насельніцтва. Прысланыя з цэнтральных раёнаў Польшчы настаўнікі, чыноўнікі на свой капыл перапісвалі амаль што непісьменных жыхароў вёсак. Пра гэта сведчаць звесткі, прыведзеныя ў даведніку за 1923 год, выдадзеным у Варшаве.

Так, у вёсцы Юшкавічы на той час жыло 240 чалавек, з іх 63 каталікі і 177 праваслаўных. Па нацыянальнасці запісана 228 палякаў і толькі 12 беларусаў. У вёсках Брусы, Няверы, Пруднікі не знайшлося ніводнага беларуса. Ці ж гэта так?

У такой спрадвечнай рыбацкай вёсцы, як Гатавічы, дзе ніхто ніколі не размаўляў на польскай мове, "аказалася", паводле перапісу, трэцяя частка жыхароў палякамі.

Правёўшы такі "дасканалы" перапіс, захопнікі з Варшавы трубілі на ўвесь свет, што яны на "крэсах усходніх" законныя гаспадары.

Вось як у сваіх мэтах сказалі і скажаюць рэчаіснасць тыя, хто імкнецца падпарадкаваць сабе суседнія народы.

*Міхаіл ЧАРНЯЎСКІ.*

Вяртаючыся да надрукаванага

# Хто гаворыць паўпраўду?

***У рэдакцыю "РГ" праз супрацоўніка КДБ Івана Шышкаўца перадаў свой допіс жыхар Ждановічаў Ігар Іваноўскі. "Хроніка паўпраўды"-названы ліст. Падаем яго без скарачэнняў.***

*"Здавалася б, хваля павальнага захаплення сродкаў масавай інфармацыі "чарнухай" часоў сталінскіх рэпрэсій ужо ўлеглася. На свет божы дастаныя не толькі гіпотэзы, прапановы, сведчанні відавочцаў, але нават і сакрэтныя дакументы тых гадоў, якія дазваляюць разабрацца ў сапраўднай падаплёцы падзей, якія тады адбываліся. З'явілася рэальная магчымасць расказаць людзям праўду. Вось толькі некаторыя работнікі пяра ўкладаюць у гэта свой - адметны - сэнс.*

*Возьмем, да прыкладу, публікацыю ў "Рэгіянальнай газеце" ад 1-7 лістапада 1996 года ў рубрыцы "Хроніка злачынстваў. Сведчаць дакументы" пад назвай "Асуджаны на 8 год лагераў". Праілюстраваная двума "лагернага тыпу" фатаграфіямі, "маляўніча" афорленая выявай калючага дроту, яна расказвае аб лёсе Рыгора Васільевіча Бохана, жыхара сяла Вуткі Куранецкага раёна, асуджанага 25.06.1940 г. Асобай нарадай НКВД на 8 год выпраўленча-працоўных работ за тое, што ён (мяркуючы па публікацыі) меў у гаспадарцы малацілку і веласіпед. Прычым гэтая "сюжэтная лінія" прасочваецца, нягледзячы на даволі сціплыя памеры згаданага твора. Пры гэтым аўтар, які, на жаль, не падпісаўся пад сваімі радкамі, спасылаецца на матэрыялы Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея. Толькі ў самых першых радках свайго твору ён згадвае, што Р.Бохан абвінавачваецца ўсё ж не ў любві да педальнага спорту, а па артыкулу 74 КК БССР як агент польскай паліцыі.*

*Азнаёміўшыся з архіўна-следчай справай Рыгора Бохана, не магу не прызнаць таго, што асуджаны ён быў, як кажуць, "на скорую руку". Усе матэрыялы базіраваліся на сведчаннях аднасяльчан, якія пацярпелі у свой час ад польскіх улад і якія зыходзілі з уласных меркаванняў. Але, думаю, варта яшчэ раз падкрэсліць, што повадам для абвінавачвання і арышту паслужыла зусім не наяўнасць у гаспадарцы Бохана малацілкі (між іншым, у матэрыялах следства аб гэтай праславутай малацілцы няма ні слова, хаця маёмасць абвінавачваемага апісана даволі падрабязна). Дарэчы, дзіўная прыхільнасць аўтара публікацыі да пералічэння рознага роду дэталяў гаспадарчага побыту свайго героя. Не забытыя ні свінні, ні каровы. Дакладна пералічана пагалоўе авечак. Перад чытачом паўстае партрэт добрага сем'яніна і харошага гаспадара, які ў поце твару здабывае хлеб свой надзённы. А што забыў аўтар згадаць аб спекуляцыі прадуктамі і бессаромным падмане сваіх аднасяльчан Рыгорам Боханам - не бяда. Бо галоўнае - не схлусіў жа? Не забытыя аўтарам і шляхі-дарогі, па якіх накіраваўся Бохан у лагеры і - цытую - "у 1944 годзе вярнуўся да сям'і ў Казахстан, дзе неўзабаве і памёр". Дзіўна толькі, што такі прыкметны факт, як амністыя і вызваленне з Карагандзінскага ІП лагера яшчэ 2.09.1941 года (на падставе Указа Прэзідыўма Вярхоўнага Савета СССР ад 12 жніўня 1941 года аб амнісціраванні польскіх грамадзян, па якім, дарэчы, былі вызвалены польскія грамадзяне, якія знаходзіліся у заключэнні і пад вартай), аб чым сведчыць пасведчанне N187069 на імя Рыгора Бохана, дзіўна "выпаў" з біяграфіі героя. Як, між іншым, і рэабілітацыя яго за недаказанасцю віны Вярхоўным судом БССР яшчэ 21.04.1961 года.*

*Што можна сказаць з гэтай нагоды? Дэкларацыя "пакарання без віны не бывае" недарэчы, калі гаворка ідзе аб рэпрэсіях трыццатых гадоў. Але калі ўжо журналіст бярэцца расказаць людзям праўду, то рабіць гэта трэба ад "а" да "я", а не выбіраючы толькі зручныя факты. Праўда, сказаная напалову,- ужо напалову хлусня. Я не збіраюся абараняць некаторых "хуткіх на руку" дзеячаў з НКВД, аднак заўважу, што абвінавачваючы органы дзяржбяспекі ва ўсіх смяротных грахах, панове барацьбіты за праўду ад журналістыкі, будзьце ж да канца сумленнымі перад сваімі чытачамі. А слава журналіста, заробленая такім метадам, скажу вам, даволі сумніўная, як і мэты, якія праследуюцца такой вось "паўпраўдай".*

***І. Іваноўскі,***
***Мінскі раён, п. Ждановічы".***

Мы ўдзячныя нашаму ўніклівому чытачу са Ждановічаў за ўвагу да выдання. Аднак пагадзіцца з усімі высновамі не ўяўляецца магчымым. Пачнем, аднак, з канца. Мэты наша газета праследуе адны- друкаваць праўду. А гэта значыць,

Самакіраванне

# Калі не наб'юць твар, ёсць шанц патануць на дарозе

*МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н. Сістэма мясцовага самакіравання складаецца з раённага Савета, пасялковага (Радашковічы), 15 сельскіх, а таксама 216 дамавых, вулічных, сельскіх камітэтаў. Здаецца, праблемы жыхароў раёна можна вырашыць на месцы. Не атрымліваецца.*

За год 70 чалавек звярнуліся непасрэдна да старшыні райсавета Аркадзя Луновіча. Дададзім сюды сотні заяў, больш як 200 скаргаў у выканком. Зямельныя пытанні, водазабеспячэнне, устаноўка і рамонт тэлефонаў— у асноўным, людзі звяртаюцца з бытавымі праблемамі. Ці могуць народныя абраннікі праз мясцовае самакіраванне вырашыць гэтыя і іншыя праблемы?

Па-першае, у дэпутатаў назіраецца абыякавасць да жыцця. Грамадскага. Апатыя. На чатырох сесіях райсавета з 30 дэпутатаў выступілі толькі 8. Можа, таму, што крытычныя заўвагі, бывае, застаюцца без той жа ўвагі. Напрыклад, Генадзь Пустаход выступаў па Радашковіцкай сярэдняй школе. Новы будынак яе на вачах разбураецца— няма гаспадара. Але пагаварылі і разышліся. Па-другое, каб выканаць рашэнне той жа сесіі, ці дастаткова ў дэпутатаў паўнамоцтваў? Кіраўнік службы, мякка кажучы, можа паслаць. Але дастаткова і пытанняў, якія павінен вырашаць толькі сельсавет. Там, дзе ёсць асфальт, сельсаветы не арганізоўваюць насельніцтва на ўборку дарог. Гэта тычыцца Цюрлёўскага, Граніцкага сельсаветаў, Радашковічаў, вёскі Краснае.

Смецце смеццем, галоўнае каб не білі. На ўліку ў камісіі па справах непаўналетніх 279 неблаганадзейных сям'яў, з іх 220 стаіць на ўліку ў наркалагічным дыспансеры. У неблаганадзейных сем'ях 19 дзяцей дашкольнага ўзросту і 297 школьнікаў. 130 падлеткаў стаяць на ўліку, у тым ліку 22 асуджаны з адтэрміноўкай прыгавору. У чатырох сельсаветах ужо створаны і дзяжураць на дыскатэках маладзёжныя атрады. Яшчэ ў шасці аднавілі дзейнасць добраахвотныя народныя дружыны.

*Васіль САВІЦКІ.*

Пячорныя людзі

# Апошні прытулак

*АШМЯНЫ. Колькасць, так званых, цяжкіх сем'яў у рэгіёне, на жаль, павялічваецца.*

Калісьці ў школе-інтэрнаце жылі дзеці з далёкіх вёсак. Інакш не было ім магчымасці вучыцца. Сёння тая ж школа-інтэрнат ператвараецца ў апошні прытулак для сацыяльных сірот. З 200 навучэнцаў іх 69. Летась сямёра дзяцей два тыдні знаходзіліся ў дзіцячым аддзяленні бальніцы ў чаканні адкрыцця змены ў летніку. З радні ў іх няма нікога.

Чацвярых Ермаловічаў на канікулы забіраюць далёкія сваякі. А ў Лідскім раёне, у чатырохпакаёвай кватэры жывуць іх дзядуля і маці, пазбаўленая бацькоўскіх правоў.

У школе-інтэрнаце шасцёра дзяцей з вёскі Дордзішкі. Бацькі п'юць. Іх вялікі, калісьці прыгожы катэдж выглядае хутчэй як хлеў.

*Аддзел інфармацыі.*

# РЭКЕТ ЗАЛІЗВАЕ РАНЫ

*Заканчэнне.*
*Пачатак на 1-й стар.*

Яно і зразумела— ноччу спаліць кіёск не праблема. Васаган, Макаранка асуджаны. Архіпаў— у бягах. Сапраўды, з'яўляюцца новыя віды рэкету. Юрыдычныя, фізічныя асобы ўжо не проста плацяць, а карыстаюцца, пры неабходнасці, паслугамі злачынцаў.

**— У Маладзечне чыгунка, развітыя аўтамабільныя шляхі, шмат прыватных фірмаў. А як справы, напрыклад, у Вілейцы і Вілейскім раёне?**

— Дастаткова работы і там. Невядомыя збілі грамадзяніна Турцыі, работніка фірмы "Энка". Захапілі дакументы, грошы, іншамарку. Злачынцаў хутка затрымалі. Як потым высветлілася, гэта былі вілейчане Сяргей Давідовіч і Андрэй Андрыеўскі. У ходзе следства даказана, што "героі" яшчэ займаліся крадзяжамі грамадскай маёмасці. Кожны з іх атрымаў па 6 гадоў зняволення. Для Андрыеўскага гэта ўжо чацвертая ходка.

**— Па чутках, у Маладзечне самая "геройская" сям'я Хасіных. Быццам, там кожны пабываў за кратамі?**

— Дваццацідзевяцігадовы Анатоль Хасін чацверты раз трапіў за краты. Разам з "сябрамі" ўчыніў 6 цяжкіх злачынстваў. Напрыклад, згвалціў жанчыну і заразіў яе венерычным захворваннем. Вердаючы, што сам хворы. Хасін прызнаны асабліва небяспечным рэцыдывістам і атрымаў 10 гадоў пазбаўлення волі. За кратамі знаходзяцца яго родны брат, сястра.

**— Ці бываюць ў час вядзення следства выпадкі ўціску на сведкаў?**

— Хутчэй, як выключэнне. Адзін з лідэраў маладзечанскай групоўкі, знаходзячыся на прымусовым лячэнні, меў магчымасць наведваць горад.

**— Ці адрозніваюцца злачынцы па сваім сацыяльным становішчы?**

— Узбуджана крымінальная справа ў адносінах да кіраўніка прадпрыемства, які атрымліваў "у падарунак" грошы. Агульная сума склала 6 тыс. долараў ЗША. Падследны больш за месяц быў ізаляваны. Улічваючы яго здароўе, выпусцілі, і тут ужо кіраўнік пачаў шукаць выйсце, апрацоўваць сведкаў. І ўсё ж, справа павінна закончыцца судом.

За мінулы год аддзелам выяўлена і раскрыта 67 злачынстваў. З іх 17 крадзяжоў у асабліва буйных памерах, 10 вымагальніцтваў. 8 злачынстваў у банкаўскай сферы. Нанесены ўрон дзяржаве, грамадзянам на 4 мільярды рублёў. 1,5 мільярда рублёў ужо вернуты. Канфіскавана 7 аўтамабіляў, зброя, наркотыкі.

Работы хапае. Таму ў рэспубліцы пры МУС створаны асобны Камітэт па арганізаванай злачыннасці і карупцыі.

Краязнаўства

# Бараўскі следавік

*ВІЛЕЙКА. Аднымі з самых цікавых археалагічных помнікаў Беларусі з'яўляюцца камяні-следавікі. У рэспубліцы іх вядома каля сотні.*

Распаўсюджаны следавікі большай часткай у паўночнай і цэнтральнай частках рэспублікі і знаходзяцца часцей за ўсё ў нізінах, балоцістых месцах. Звычайна гэтыя валуны невялікіх памераў, на якіх ёсць выемкі, што нагадваюць сляды нагі або далоні чалавека ці, радзей, жывёлы. Выемкі бываюць як прыроднага паходжання, так і зробленыя рукой чалавека. Вучоныя лічаць, што следавікі— праява язычніцкіх культаў. Пасля ўвядзення хрысціянства гэтыя камяні нярэдка змяшчалі ў храмы, будавалі над імі капліцы. Пра камяні-следавікі складзена мноства паданняў, павер'яў, народ даў ім розныя назвы.



На Вілейшчыне ёсць звесткі аб некалькіх камянях-следавіках. Адзін з іх, па паведамленнях вучоных мінулага стагоддзя, знаходзіўся ў капліцы, што стаяла на каталіцкіх могілках ва ўрочышчы Гарадзішча на ўскраіне Вілейкі. Камень, на якім быў выбіты след стапы чалавека, называўся "Камень са следам нагі чалавека". Капліца зараз разбурана, а лёс гэтага выдатнага камня невядомы.

Па некаторых дадзеных, яшчэ ў 50-я гады два камяні-следавікі ляжалі каля вёскі Бараўцы. Для праверкі гэтых звестак вясной мінулага года група краязнаўцаў з Вілейкі наведала вёску. Удалося знайсці толькі адзін камень, аб другім ніхто з апытаных жыхароў не чуў. Магчыма, звесткі памылковыя і камень быў адзін, хоць і яго аказалася няпроста знайсці. Дапамог у гэтым мясцовы жыхар Яўген Кавалёнак (на здымку), які добра ведае мясцовыя помнікі гісторыі. Ён і паказаў гэты камень-следавік, адзіны з вядомых, што захаваўся на Вілейшчыне. Камень называецца "Сядзенне Бога Ісуса Хрыста". Па мясцовым паданні, "на ім сядзеў Бог Ісус Хрыстос і пакінуў адбіткі пятак". Гэта дзве акруглыя выемкі яўна штучнага паходжання. Камень ляжаў на краі балота, якое зараз распрацавана і стала раллёй.

Так быў зноў адкрыты помнік археалогіі, што лічыўся згубленым. У верасні таго ж года камень агледзелі вучоныя Акадэміі Навук і занеслі яго ў сваю картатэку.

*Аляксандр ЗАЙЦАЎ.*
*Фота аўтара.*

факты. І калі мы лічым, што факты могуць выклікаць інтарэс чытача, мы імкнемся знайсці магчымасць іх апублікаваць. А цяпер усё па парадку.

Калі рэдакцыі сталі вядомымі публікацыі за мяжой архіўных матэрыялаў, што тычацца вязняў турмы ў Вілейцы, то мы палічылі магчымым пачаць серыю матэрыялаў, якія сведчаць пра гэтыя падзеі. Матэрыялы падаюцца як рэдакцыйныя, таму ідуць, ёсць такая практыка, без подпісу. Хаця іх рыхтуе, як і гэты, мы не робім сакрэту, галоўны рэдактар Аляксандр Манцэвіч. Мэта іх - пазнаёміць чытача з малавядомымі, а то і невядомымі ўвогуле, фактамі.

Што да аздаблення калючым дротам застаўкі рубрыкі - рэч простая. Людзей з Вілейкі да Барысава падчас эвакуацыі турмы ў 1941 годзе вялі са звязанымі за спінамі калючым дротам рукамі. Вось што расказвае дачка арыштаванага Іосіфа Аляксандравіча Шведа Ларыса Іосіфаўна Кішко:

*"Мая маці, Ганна Усцінаўна Швед, перад пачаткам Вялікай айчыннай вайны даведалася, што вязняў вілейскай турмы вывезлі ў Плешчаніцы і расстралялі. Разам з бацькам маткі і суседам яны нанялі калёсы і паехалі ў Плешчаніцы, каб забраць цела і пахаваць яго па хрысціянскаму звычаю. Тут яны ўбачылі жахлівую карціну. Трупы вязняў былі скінутыя у бульбяныя ямы і ледзь-ледзь прысыпаныя зямлёй. У многіх рукі былі звязаныя калючым дротам. Пераварочвалі, плакалі над імі, але Іосіфа так і не знайшлі."*

Гэта радкі з дакументальнай кнігі В.Адамушкі і Н.Івановай "Помилуйте", выдадзенай ў 1992 годзе Галоўным архіўным упраўленнем пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь. І каб не быць абвінавачаным у паўпраўдзе, дадам. Іосіф Швед з Занарачы аказаўся жывым. Ваяваў у Арміі генерала Андэрса супраць фашыстаў, лёс закінуў у Лондан. Калі пра гэта даведаліся ў НКВД, пачаліся допыты, начныя выклікі родных. *"Канстатавалі, што Швед стаў англійскім палкоўнікам, патрабавалі доказаў яго адданасці Радзіме. З дня на дзень мы чакалі, што нас вывезуць у Сібір, нават рэчы ўпакавалі."*

Родныя Бохана не чакалі, што іх вывезуць. Аднак іх вывезлі. Праўда, усяго толькі ў Казахстан. Спытайце ў яго дачкі Ганны Рыгораўны, яна і сёння жыве ў вёсцы Вуткі.

Што тычыцца "педальнага спорту", то аб прыхільнасці да такога "РГ" не пісала. Але хай чытач сам параўнае. Публікацыя невялікая па аб'ёме, таму мы змяшчаем яе поўнасцю.

*"Рыгор Бохан, 1886 г. н., жыхар вёскі Вуткі, Іжанскага с/с Куранецкага раёна, селянін, абвінавачваўся па арт. 74КК БССР у тым, што быў агентам польскай паліцыі. Арыштаваны 03. 04. 40 г., утрымліваўся пад вартай у турме УНКВД Вілейкі, 25. 06 1940 г., асуджаны Асобай нарадай на 8 год выпраўленча-працоўных лагераў і для адбыцця пакарання накіраваны на станцыю Карабас Паўночнай чыгункі. Сям'я Рыгора Васільевіча Бохана была сасланая ў Казахстан.*

*Рыгор Бохан да арышту працаваў на сваёй гаспадарцы, сям'я складалася з 7 чалавек, меў малацілку, мала зямлі, 4 каровы, 12 авечак, 4 свінні, веласіпед. У 1944 годзе вярнуўся да сям'і ў Казахстан, дзе неўзабаве і памер. Пахаваны ў пасёлку Аляксееўка Баян-Аульскага раёна Паўладарскай вобл.*

*Колькі такіх сялян, якія адважваліся мець не толькі малацілку (сям'ю ж карміць трэба было), а і свой ровар - раскоша - прайшло праз камеры Вілейскай турмы.*

*Матэрыял прадастаўлены Вілейскім гісторыка-краязнаўчым музеем. Фота з фондаў музея."*

Я азнаёміцца з архіўна-следчымі і іншымі матэрыяламі, якія тычацца Вілейскай турмы згаданага перыяду і захоўваюцца ў КДБ, магчымасці не меў, як мае магчымасць для гэтага чытач са Ждановічаў. Праўда, такая магчымасць была мне паабяцана Іванам Іванавічам Шышкаўцом, але далей перадачы спачатку матэрыялу журналіста з "Рэспублікі" Мікалая Жучко, а цяпер пісьма жыхара Мінскага раёна справа не пайшла. Таму і карыстаюся вядомымі мне звесткамі з вілейскага музея, архіва ў Маладзечне, расказаў жывых сведкаў таго часу і даступнымі мне публікацыямі у айчынным і замежным друку. Адсюль і звесткі пра малацілку, якую энкавэдзісты ў свой час не далучылі да вопісу. І што тут дзіўнага (ці злачыннага?), што мной падрабязна сказана пра гаспадарку Бохана? Адкуль зусім не вынікае, якім сем'янінам быў Рыгор Бохан. Хаця Ганна Рыгораўна згадвае, як тата браў яе, тады зусім маленькую дзяўчынку, з сабой на кірмашы ў Вілейку, Куранец. Без жонкі гадаваў дзіцё - благі бацька ці браў бы за сабой дачку? А што купляў у аднавяскоўцаў і жыхароў суседніх вёсак свіней, а затым калоў іх і прадаваў мяса,- ці спекуляцыя гэта? Не кожны зоймецца гэтым. А вазіць (на наёмным транспарце) даводзілася нават у Вільню. Я пытаўся ў Ганны Рыгораўны, навошта бацька рабіў гэта. Жыць трэба было - адказ жанчыны. Дзе тут, паважаны Ігар Станіслававіч, "бессаромны падман аднавяскоўцаў?". Дарэчы, Вуткі ніколі не былі сялом. Я такога не пісаў. Маленькая вёсачка. Пры ваколіцах Іжы яна была мала каму цікавая. Але калі трэба было забраць "памагатага польскай паліцыі", то рукі НКВД і да Вутак дастануць. Праўда, забралі Рыгора Бохана ў цэнтры Іжы. Так што і развітацца з сям'ёй не паспеў. І не ведалі б, што быў ён у Вілейцы ў турме, каб пасля адзін са знаёмых не пераказаў пра гэта родным.

У фондах музея не было да нядаўняга часу звестак ні пра амністыю Бохана, ні пра яго рэабілітацыю. Не магла дачка яго і згадаць, адкуль ў яе бацькаў здымак "лагернага тыпу", як вы, Ігар Станіслававіч, пішаце. Вось уся прычына, чаму гэтыя факты "выпалі" з біяграфіі Бохана. А яны, факты, сапраўды цікавыя. Калі Прэзідыўмам Вярхоўнага Савета СССР фактам амністыі прызнаецца польскае грамадзянства Бохана, то за што тады быў небарака асуджаны? За тое, што супрацоўнічаў з дзяржаўнай паліцыяй той краіны, грамадзянінам якой з'яўляўся?






Урэшце, паглядзіце якія вочы былі ў Бохана да турмы (здымак злева), і што з ім зрабіла вязніца (здымак справа). Злачынствы, якія здзяйсняліся на нашай зямлі, народ ніколі не забудзе. Ды і пра што гаварыць? Бохан быў рэпрэсіраваны. Пра гэта мы і сказалі. Гэта і ёсць наша праўда. Бохан быў таксама поўнасцю рэабілітаваны. І няма чаго сёння абвінавачваць яго ў тым, што старанныя энкавэдзісты пяліся даказаць у змрочныя часы іх панавання. У тыя часы, у якія, спадзяюся, ніколі вяртання не будзе.

Ці выбіраў я толькі факты, зручныя для мяне? Ну зразумела ж, выбіраў. Але толькі з таго матэрыялу, які ў мяне быў. На пухліне дастаткова зрабіць зрэз, каб пераканацца, што гэта пухліна. І калі інтарэс сярод чытачоў да гэтага ёсць - значыць, я і дасягнуў мэты, хоць вы, паважаны чытач, і называеце такія мэты даволі сумніўнымі. Калі ж КДБ дазволіць пакарыстацца сваімі архіўнымі дадзенымі, а не выкладаннем іх ў чыімсьці пераказе, то я з удзячнасцю гэтую дапамогу прыму. Дарэчы, я ўдзячны Івану Іванавічу Шышкаўцу за магчымасць папрацаваць з архіўнымі матэрыяламі КДБ па масавым вынішчэнні яўрэяў у Валожыне, Даўгінаве, Іллі, Красным, Друі. Аб гэтай старонцы нашай гісторыі размова наперадзе.

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ.*

# Крыжаванка



*Па гарызанталі:* 3. Цэнтр павета ў Вялікім Княстве Літоўскім. 9. Чыгуначная станцыя ў Астравецкім раёне. 10. Вядомы ў мінулым дыпламат, дзяржаўны дзеяч і кампазітар. 11. Герой Савецкага Саюза, адзін з арганізатараў партызанскага руху на Вілейшчыне. 12. Вёска ў Валожынскім раёне, дзе ў 1574 годзе Сымон Будны друкаваў свае творы. 13. Пачуццё меры, захаванне правілаў прыстойнасці. 14. Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, гісторык, ураджэнец вёскі Баруны Ашмянскага раёна. 16. Другая назва пумы. 18. Савецкі военачальнік, камандуючы Беларускай ваеннай акругай у 20-х гадах. 19. Здольнасць чалавека да распазнавання, разумення і ацэньвання эстэтычных з'яў ва ўсіх сферах жыцця і мастацтва. 21. Міжнародны аэрапорт у Парыжы. 22. Радзіма славутага беларускага песняра. 23. Герой Савецкага Саюза, камандзір танкавай брыгады, вызначыўся пры вызваленні Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў на маршруце Барысаў-Вілейка-Вільнюс. 25. Камандзір батарэі "кацюш", якая першая ў Чырвонай Арміі ў 1941 годзе нанесла ўдары па ворагу. 26. Рака, на якой дзейнічала Васькаўская ГЭС. 28. Лесапільня. 29. Краіна ў Заходняй Афрыцы. 31. Народны артыст СССР, фальклярыст, кіраўнік Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капелы Беларусі, якая цяпер носіць яго імя. 33. Прыток Віліі. 34. Вёска ў Ашмянскім раёне, калісьці цэнтр магутнага княства. 35. Заснавальнік навуковага камунізму. 39. Горад у Новасібірскай вобласці. 42. Марка беларускага аўтамабіля. 44. Снасці судовага такелажа. 45. Папулярны эстрадны спявак. 46. Прынятая за аснову норма. 47. Герой руска-турэцкай вайны 1877-78 гадоў, удзельнік рэвалюцый, грамадзянскай вайны, выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі 1885 года, які пражыў каля 115 гадоў. 48. Прымітыўная сельскагаспадарчая прылада для ворыва глебы.

*Па вертыкалі:* 1. Вядомая беларуская паэтэса, магіла якой знаходзіцца ў в. Вішнева Валожынскага раёна. 2. Від транспарту. 3. Раман В. Скота. 4. Садовая ягада. 5. Трывалая баваўняная тканіна, якая выкарыстоўваецца для вырабу наждачнага палатна, пры пашыве вырабаў з футра. 6. Аперэта Кальмана. 7. Род травяністых раслін сямейства складанакветных, пустазелле. 8. Беларускі этнограф, археолаг, публіцыст, які шмат зрабіў па вывучэнні гісторыі нашага краю. 10. Індзейскі народ у Мексіцы. 15. Князь Вялікага княства Літоўскага, у 1385 годзе закончыў Крэўскую ўнію. 17. Раённы цэнтр былой Вілейскай, а затым Маладзечанскай вобласці, які яшчэ ў 1565 атрымаў Магдэбургскае права. 18. Славяне, якія насялялі нашу мясцовасць. 20. Горад, у якім існавала "Мядзведжая акадэмія". 22. Жаночае імя. 23. Асабістая стралковая зброя. 24. Сузор'е Паўночнага паўшар'я. 27. Сялянская адзежына з тоўстага саматканага сукна. 30. Вёска, дзе ў 1917 годзе быў падпісаны дагавор аб перамір'і на Заходнім фронце. 32. Фарбавальнае рэчыва, водны раствор якога прымяняецца як індыкатар. 35. Лекавая расліна. 36. Сядзіба ці ферма ў Амерыцы. 37. Герой вадэвіля Л. Радзевіча. 38. Пушны драпежны звер. 40. Французскі філосаф, адзін з заснавальнікаў хрысціянскага сацыялізму. 41. Трэцяя па вышыні гара ў Беларусі. 43. Паэт-рамантык, даследчык прыроды, літаратар, сябар А. Міцкевіча, які нарадзіўся ў Мясаце Маладзечанскага раёна.

*Склаў Анатоль РОГАЧ, Вілейка.*

## Медыцына

# Па метаду Фоля

***Браты Алег і Уладзімір Лашковы працуюць у 31-й мінскай паліклініцы. Медыцынскі стаж іх роўны 23 і 26 гадам адпаведна. У дыягностыцы пры лячэнні пацыентаў яны выкарыстоўваюць метад нямецкага вучонага, прафесара Р. Фоля. Лашковы першыя ў Беларусі асвоілі гэтую методыку.***

Метад бяскроўны і бязбольны, дазваляе з 98 працэнтнай дакладнасцю па біялагічна актыўных кропках з дапамогай электроннага прыбора і біялагічных тэстаў прадыягнаставаць усе органы і сістэмы арганізма, вызначыць першапрычыну хваробы, чым выклікана захворванне (мікробам, вірусам, таксінам, ускладняючым экалагічным фактарам). З дапамогай вышэйназванага метаду можна з дапамогай прыбора індывідуальна падабраць фармацэўтычны прэпарат, устанавіць яго дозу. Часцей за ўсё пры лячэнні хранічных захворванняў урачы выкарыстоўваюць прэпараты германскай фірмы "Хеель", якія валодаюць гомеапатычнымі ўласцівасцямі і падбіраюцца індывідуальна для кожнага хворага з абавязковым наступным кантролем і карэкцыяй лячэння.

Метад дазваляе выявіць хваробу на даклінічнай стадыі і неадкладна правесці адпаведнае лячэнне.

За гады работы Лашковы пралячылі каля 6000 хворых. У асноўным, гэта пацыенты, якія раней прайшлі разнастайныя абследаванні і лячэнні, але ўсё аказвалася безвыніковым. Шматлікія водгукі пацыентаў, якія яны адрасуюць у адрас урачоў, сведчаць, што метаду можна давяраць. Трапіць на прыём можна толькі па папярэдняму запісу (нумар тэлефона ў Мінску 588814).

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

## Яўрэйскі анекдот

# Хэлмскія мудрацы

✡ ✡ ✡

На пероне стаіць яўрэйка і галосіць.

— Чаго плачаш?— пытаецца ў яе супляменнік.

— Во-о-й! Спазнілася на цягнік...

— На многа спазнілася?— цікавіцца яўрэй.

— Усяго на дзве мінуты...

— А верашчыш так, быццам самае меншае на дзве гадзіны!

✡ ✡ ✡

Хэлмскі яўрэй на прыёме ў лекара.

— Што пана турбуе?

— Пан доктар, мне здаецца, што я звар'яцеў.

— Гм... А якія праявы вашай хваробы?

— Я сам сабе пішу лісты.

— І калі вы напісалі астатні ліст?

— Уранні.

— І што вы там напісалі?

Хэлмянін хітра ўсміхаецца:

— Гэтага, пане доктар, не магу ведаць. Заўтра з поштай ліст прыйдзе да мяне, вось і даведаюся.

✡ ✡ ✡

З Хэлма ў суседні горад выязджае на кірмаш яўрэйскі "амнібус"— перапоўненая па берагі пасажырамі фурманка.

Апошняй узбіраецца на калёсы ўкормленая гандлярка. Стаўшы на чыйсці чаравік, пытае:

— Каму ж гэта я стала на нагу?

На гэта хэлмскі меламед разважліва адказвае:

— Калі гэта нага ў блакітнай шкарпэтцы— то гэта мая нага.

✡ ✡ ✡

Хэлмскі багацей кажа свайму слузе:

Вось табе трыццаць капеек і ліст. Ліст кінь у паштовую скрыню, але спачатку купі марку і прыклей яе да канверта!

Слуга хутка выканаў даручэнне, вяртаецца дадому і аддае гаспадару атрыманыя колькі мінут таму грошы.

— Але чаму не купіў маркі?

— Ці вы лічыце мяне за дурня? Я падышоў да скрыні, азірнуўся навокал. На вуліцы не было ні душы, дык я і кінуў хуценька ліст... без маркі.

✡ ✡ ✡

Два хэлмяніны выбраліся на шпацыр за горад. Раптам пагоднае неба пакрылася хмарамі і лінуў дождж.

Таму што адзін з іх трымаў пад пахай парасон, другі прыкрыкнуў на яго:

— Чаму не раскладзеш парасона?!

— Ён жа нічога не варты— дзірка на дзірцы!

— Дык дзеля чаго яго носіш?

— Я не прарок. Ці мог прадбачыць, што з пагоднага неба раптам паліецца дождж?

✡ ✡ ✡

Хэлмянін кружыць вакол ліхтара і чагосці старанна шукае. Прахожы пытаецца ў яго:

— Што шаноўны згубіў?

— Рубель.

— І менавіта тут, пад ліхтаром?

— Не, трошачку далей.

— Дык чаму вы шукаеце тут?!

— Бо тут светла.

✡ ✡ ✡

Аднаго дня прыбыў у Хэлм яўрэй з Літвы.

З-за таго, што пагардліва выказваўся аб прыгожым горадзе на ўзвышшы, называючы яго горадам дурняў, рашэннем кагальнай рады быў часова арыштаваны.

Не прайшло гадзіны, як арыштант звярнуўся да вартаўніка:

— Сябра мой, я вельмі галодны. Вось тут тры капейкі— скоч да пекара— купі булку...

Вартаўнік вырашыў зрабіць дабро беднаму літвяку, але той— пакінуў камеру.

Уцекача злавілі і зноўкі пасадзілі. Там разам паставілі ля дзвярэй шмат разумнейшага вартаўніка. Калі арыштант папрасіў купіць яму булку, вартаўнік засмяяўся яму ў вочы і сказаў:

— Ты мяне не абдурыш, разумнік. Я ўжо адсюль не рушуся ні на крок. Калі ты такі галодны, як кажаш, то ідзі сабе да крамы сам...

✡ ✡ ✡

У Хэлме выбухнуў пажар. Калі на месца выпадку прыбыла пажарная каманда з бочкай і помпай, аказалася, што шланг ад той помпы быў такі дзіравы, што нельга яго ўжыць.

Вось тады кагальная рада і прыняла гістарычную пастанову: "Належыць кантраляваць шланг напярэдадні кожнага пажару".

✡ ✡ ✡

Хэлмянін дамаўляецца з таварышам:

— Слухай, Айзік! Калі заўтра пасля палудня будзе ісці дождж, то прыду да цябе вечарам.

— А калі вечарам будзе ісці дождж?

— То прыду пасля палудня...

✡ ✡ ✡

Да хэлмскага рабіна Зісля прыбягае абураны багацей:

— Рабі, я мушу развесціся з жонкай!

— Чаму?

— Яна мяне абкрадвае!

— Доказы ёсць?

— У яе пад гарсэтам знайшоў мой новы, дарагі хранометр.

Рабін задумаўся.

— Хранометр— гэта значыць гадзіннік?

— Так.

— А які гэта быў гадзіннік? Ручны ці насценны?

✡ ✡ ✡

Не толькі Хэлм быў вядомы яўрэямі-"мудрацамі". Многа баек складзена пра венскае сямейства яўрэяў-неафітаў, якія атрымалі свайго часу нават шляхецтва, пана і пані Поляк фон Парнег. Героем венскіх анекдотаў стала пані Ружа Поляк.

Пан Поляк паехаў на лячэнне ў санаторый. Тым часам памірае яго сястра. Спадарыня Ружа павінна паведаміць мужу пра няшчасце. Але як гэта зрабіць найбольш асцярожна— у мужа хворае сэрца.

Урэшце пані Ружа высылае тэлеграму: "Адэля крыху захварэла. Пахаванне ў чацвер".

✡ ✡ ✡

Дачка пані Поляк заручылася. Афіцыйная ўрачыстасць павінна адбыцца праз тры дні. Маці высылае сыну, студэнту політэхнічнага інстытута ў Брно тэлеграму:

"Тэрмінова прыязджай на заручыны Мальвіны".

Сын адказвае:

"Не магу прыехаць. Ляжу ў ложку з ангінай".

Спадарыня Ружа дасылае яшчэ адну тэлеграму:

"Дай ёй дваццаць крон, выкінь яе за дзверы і неадкладна прыязджай".



Купон для бясплатных прыватных аб'яў 9

Бясплатна ў парадку чаргі змяшчаюцца аб'явы недзелавога зместу аб'ёмам да 15 слоў, напісаныя друкаванымі літарамі. Аб'явы без чаргі і дзелавога характару— платныя. У купоне змяшчаецца адна прапанова. **Ананімныя і без адраса купоны не разглядаюцца.**

**Тэкст аб'явы:** ____________________

**Прозвішча, імя і адрас (звесткі не публікуюцца):** ____________________

